# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 37 (423) — Нядзеля, 28 верасьня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Адказ, на які Хрушчоў заслужыў

На фоне падзеяў да Далёкім Усходзе здарыўся нядаўна выпадак, які ня мае сабе прэцэдэнсу ў дыпляматычных дачыненьнях цывілізаваных народаў. Незалежна ад сваей пікантнасьці, гэты выпадак найвымоўней характарызуе палітычныя прынцыпы й тактыку, якой прыдзержываецца камуністычны Крэмль з аднаго боку і вольналюбная дэмакратычная Амэрыка — з другога.

Дык пачнём ад фактаў. У ланцугу бесьперапынных дыпляматычных лістоў і нотаў, якімі засыпаў Хрушчоў кіраўнікоў заходніх дзяржаваў і на якія апошнія змушаныя адказваць, меў месца апошні ліст прэзыдэнта Айзэнгаўэра да Хрушчова з 12 верасьня сёлета. У гэтым лісьце амэрыканскі прэзыдэнт у ветлівай дыпляматычнай форме зьвярнуўся да кіраўніка Савецкага Саюзу з просьбай, каб ён зрабіў належны ўплыў на Мао-Тсэ-Тунга з мэтаю спыненьня ваенных дзеяньняў супраць абтоку Кімой і згадзіўся на разьвязаньне спрэчнага пытаньня шляхам дыпляматычных перагавораў. Пастаноўка справы прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам была зусім правільная й нікога не магла абражаць, бо-ж не сакрэт, што ваенная авантура чырвонага Кітая зьяўляецца ўзгодненая з Крэмлём і праходзіць пры выдатным падтрыманьні апошняга. І наадварот, для нікога ня ёсьць сакрэтам таксама, што калі-б Савецкі Саюз сур'ёзна захацеў спыніць гэтую авантуру, дык кітайскія камуністыя былі-б змушаныя згадзіцца з гэтым. Такім чынам ліст прэзыдэнта Айзэнгаўэра быў накіраваны паводля правільнага адрысу.

Тымчасам зварот прэзыдэнта Айзэнгаўэра стаўся для Хрушчова добрай нагодай, каб у сваім адказе прэзыдэнту Айзэнгаўэру з 19 верасьня сёлета перавярнуць ката дагары нагамі й чорнае назваць белым, а белае чорным. Пры гэтым Хрушчоў, прыдзержываючыся свайго хамскага звычаю, дазволіў сабе столькі нагрубіяніць, ужыць абразьлівых і нецэнзурных у дыпляматычнай мове выражэньняў, што ягоны ліст да некаторай меры прыпамінае легендарны ліст запарожцаў турэцкаму султану.

На просьбу прэзыдэнта Айзэнгаўэра зрабіць уплыў на кітайскіх камуністых, каб дасягнуць адпружаньня ў раёне Фармозы, Хрушчоў адказвае, што гэта было-б умешваньнем Савецкага Саюзу ў нутраныя справы Кітая. Пры гэтым не забыўся падчыркнуць, што «Савецкі Саюз ніколі ня будзе ўдзельнікам такой бессаромнай справы», даючы гэтым да зразуменьня, што якраз Амэрыка й ейны прэзыдэнт займаюцца «бессаромнымі справамі». «Вы стараецеся давесьці, чаго давесьці нельга, што быццам урад ЗША мае якоясьці маральная й юрыдычнае права трымаць свае збройныя сілы ў раёны Фармозы. Кажны можа разглядаць факты так, як дазваляе яму агоная мараль. Але ад фактаў уцячы нельга», — прадаўжае Хрушчоў, ставячы нядвузначна гэтым пад сумлеў мараль амэрыканскага прэзыдэнта. У далейшым Хрушчоў абвінавачвае прэзыдэнта Айзэнгаўэра, што ён, умешваючыся ў нутраныя справы Кітая, узяў на сябе «жандармскія функцыі», што ягоныя спасыланьні на дагаворы з Чан-Кай-Шэкам зьяўляюцца «недарэчнымі» («нелепые»), што Амэрыка ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, не дапускаючы прыняцьця ў ейны склад камуністычнага Кітая, вядзе «абструкцыйную палітыку», і г. д.

Паводля хрушчоўскае дыялектыкі, не камуністычны Кітай і за ім Савецкі Саюз выклікалі канфлікт у раёне Фармозы, але Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. У словах поўных цынізму й грубых абразьлівых акцэнтаў Хрушчоў цьвердзіць:

«Кажны, хто цьвяроза ацэньвае заіснаваўшую сытуацыю, абасноўваючыся на рэальных фактах, ня можа ня прызнаць, што адзіным і запраўдным жаралом напружаньня ў гэтай часьці сьвету ёсьць тое, што ЗША захапілі карэнную Кітайскую тэрыторыю — Фармозу і рад іншых абтокаў, трымаюць на ёй пад ахаронай сваіх гарматаў выкінутую («вышвырнутую») кітайскім народам чанкайшэкаўскую кліку, паддзержываюць ейныя вылазкі і правакацыі супраць народнага Кітая».

А ў наступных словах Хрушчова знаходзім ужо яўную пагрозу пад адрысам Амэрыкі:

«Я павінен зусім адкрыта сказаць Вам, спадар Прэзыдэнт, што атамны шантаж у дачыненьні да Кітайскай Народнай Рэспублікі не запалохае ані нас, ані Кітайскую Народную Рэспубліку. Тым, хто выношвае пляны атамнага нападу на КНР, ня трэба было-б забывацца, што ня толькі ЗША, але й другі бок мае атамную й вадародную зброю, а таксама адпаведныя сяродкі ейнае дастаўкі, і калі на КНР будзе зроблены такі напад, дык агрэсар безадкладна атрымае адпор тымі-ж сяродкамі».

Свой доўгі ліст закончыў Хрушчоў канкрэтнымі дамаганьнямі:

«Трэба раз і назаўсёды пакончыць з умешваньнем у нутраныя справы Кітая. Амэрыканскі ваенны флёт павінен быць адкліканы з праліву Фармозы і амэрыканскія жаўнеры павінны пакінуць Фармозу й вярнуцца дамоў. Бяз гэтага ня можа быць трывалага міру на Далёкім Усходзе. Калі ЗША ня зробяць гэтага цяпер-жа, дык у народнага Кітая не астаецца іншага шляху апрача выгнаньня варожых яму збройных сілаў зь ягонай собскай тэрыторыі, на якой ствараецца пляцдарм для нападу на Кітайскую Народную Рэспубліку. Мы поўнасьцю на баку Кітайскага народнага ўраду, кітайскага народу. Іхную палітыку мы паддзержываем і будзем паддзержываць».

Як бачым Хрушчоў прамовіў пахрушчоўску. Мала таго, што ўся аргумэнтацыя Хрушчова абапіраецца на грубым перакручваньні фактаў і зьяўляецца пазбаўленая ўсякай здаровай лёгікі. Але й сама мова ня мае нічога супольнага з дыпляматычнай мовай, а прыпамінае перапоўнены грубымі й вульгарнымі выражэньнямі савецкі мітынговы жаргон.

Таму прэзыдэнт Айзэнгаўэр зарэагаваў на гэты нахабны ліст Хрушчова так, як наагул можна было на яго зарэагаваць. Айзэнгаўэр ня прыняў гэтага хрушчоўскага пасланьня й даручыў амэрыканскаму амбасадару ў Маскве зьвярнуць яго назад Хрушчову. Гэта таксама выпадак, які ня маў прэцэдэнсу ў дыпляматычных дачыненьнях. Трэба спадзявацца, што пасьля гэтага Хрушчову болей не захочацца засыпаць сваімі лістамі, пасланьнямі й нотамі Амэрыку.

Тымчасам напружаньне на Далёкім Усходзе ўсьцяж завайстраецца і няма надзеі, каб яно магло хутка разладавацца. Артылерыйскі абстрэл абтоку Кімой усьцяж узмацняецца. Ад 23 жніўня, калі гэты абстрэл пачаўся, г. зн. на працягу аднаго месяца, на Кімой было выпушчана 324 039 гарматных стрыльнаў. Нядаўна распачатыя ў Варшаве перагаворы амэрыканскага й кітайскага амбасадараў у справе разьвязаньня канфлікту не даюць ніякіх пазытыўных вынікаў, і ні Вашынгтон, ні Пэкін гэтых вынікаў не чакаюць. Савецкі Саюз актыўна й наважана заангажаваўся на баку чырвонага Кітая, не шкадуючы бесьперапынных і нядвузначных пагрозаў пад адрысам Амэрыкі, што ейны напад на камуністычны Кітай будзе абазначаць такі-ж напад і на Савецкі Саюз.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Мільярды ёсьць, а кватэраў няма...

На працягу ўсяго часу йснаваньня савецкага ладу самай пякучай была й застаецца жыльлёвая праблема. Цяжкі кватэрны крызіс існаваў да другой сусьветнай вайны, які ў шмат разоў павялічыўся пасьля вайны. Савецкі ўрад пасьля вайны прыклаў нямала стараньняў, каб забясьпечыць кватэрамі адказных кіраўнікоў партыі й ураду, а таксама генэралітэт ды тую савецкую інтэлігенцыю, якая стаяла блізка каля партыі й ураду ды тварыла рэжыму славу. Ня так мо камфорт, як «манумэнтальнасьць» пасьляваеннага жыльлёвага будаўніцтва перакрочыла магчымасьці й некаторыя архітэктары за гэтую «манумэнтальнасьць» панесьлі кару.

Аднак шырокай праграмы й плянаў жыльлёвага будаўніцтва ня йснавала. Працоўныя масы, работнікі, дробныя служачыя гарадоў, туліліся ў часовых халупах, сутарэньнях, зямлянках. А ў тых будынках, што ўцалелі, людзі жылі ў страшэннай цеснаце. Праўда, сям-там, асабліва пры буйных прадпрыемствах будаваліся агульныя памешканьні для работнікаў. Прызначаныя для адзіночак, на працягу кароткага часу агульныя памешканьні пертвараліся ў сямейныя прытулішчы, падзеленыя заслонамі з посьцілак, а ў лепшых выпадках — з фанеры.

Ня лепш жывецца й тым шчасьліўцам, што атрымалі ў новых дамох асобныя пакоі на сям'ю. Такія сем'і прымушаны карыстацца агульнай кухняй, прыбіральняй, што даводзіць жыхароў да частых непаразуменьняў.

Нясьцерпнае становішча з забясьпячэньнем кватэрамі, цяжкія ўмовы жыцьця ў існуючых кватэрах выклікаюць шмат справядлівых незадаваленьняў працоўных масаў, адбіваюцца на прадукцыйнасьці працы й зьяўляюцца асноўнай прычынай плыўкасьці працоўнай сілы.

Каб адцягнуць увагу ад незадаваленьня, камуністычнае кіраўніцтва распачало шырокую прапаганду аб гэтак званых мерапрыемствах дзеля ліквідацыі жыльлёвага крызісу. З гэтай мэтаю ў буджэты саюзных рэспублік былі ўнесены значныя асыгнаваньні на жыльлёвае будаўніцтва. Савецкая прэса, кіруючыся дырэктывамі партыі, разгарнула вакол гэтага шырокую прапаганду. Паклікаючыся на мільярды рублёў, прызначаныя на будаўніцтва, прыводзяцца лічбы жыльлёвай плошчы, якая да канца году мае быць пабудавана.

Між тым, гэтыя мільярды рублёў на паперы мала павялічваюць жыльлёвую плошчу. Вось факты. У сталіцы Беларусі, Менску, на Пуліхаўскай вуліцы вось ужо тры гады вядзецца будаўніцтва вялікага дому. Кажны год, пачынаючы ад 1956, на будаўніцтва адпускаюцца вялікія сумы, але яны не выкарыстоўваюцца. За тры гады было асыгнавана на гэты дом 4 мільёны рублёў, а ўкладзена ў будаўніцтва яго толькі 917 тысяч рублёў. Пакуль што закончана толькі ўкладаньне сьценаў першага паверху, і надалей будаўніцтва пакуль што спынена. Такім чынам больш за тры мільёны рублёў засталося ў касе дзяржавы, а працоўным давядзецца яшчэ некалькі гадоў чакаць кватэраў.

У Магілёве на малочным заводзе 33-кватэрны дом ужо будуецца на **працягу пяці гадоў**. На заканчэньне гэтага дому сёлета было асыгнавана 1 550 тысяч рублёў, а покуль што выдаткавана толькі 370 тысяч. Відаць, заканчэньне будаўніцтва дому будзе перанесена на наступны год.

У шмат горшых умовах знаходзіцца жыльлёвае будаўніцтва, якое праводзіцца гэтак званым мэтадам народнай будоўлі. Такое будаўніцтва вядзецца зь ініцыятывы зацікаўленага прадпрыемства й рабочых. Гэтым мэтадам будуюцца кватэры, клубы, школы, дзіцячыя сады. Звычайна прадпрыемства або калгас павінны знайсьці грашовыя сяродкі й будаўнічыя матар'ялы, а работнікі сваёю працаю ў вольны час дапамагаюць прадпрыемству. Такім ініцыятыўным мэтадам Горадзенскі тонкасуконны камбінат пабудаваў 12-кватэрны дом, будуецца яшчэ адзін такі дом і надбудаваны другі паверх на будынку дзіцячых ясьляў. Ды бяда тая, што гэтых будынкаў нельга здаць у эксплятацыю, бо камбінат ня можа нідзе набыць газавых трубаў, радыятараў, шкла, хварбы. Так і стаяць будынкі бяз ужытку.

Апрача дзяржаўнага й ініцыятыўнага будаўніцтва йснуюць яшчэ й індывідуальныя забудоўшчыкі. Некаторым зь іх дзяржава дае крэдыт і адводзіць дзялянку пад жыльлёвае будаўніцтва. Аднак гэтакім будаўніцтвам ніхто ня цікавіцца. Як адзначае «Советская Белоруссия» індывідуальныя забудоўшчыкі «ня могуць атрымаць аўтатранспарту, ім няма дзе расьпілаваць бервяно на дошкі, зь лесагандлёвых складаў і магазынаў навет будаўнічыя матар'ялы пападаюць зусім іншым, а ня тым, каму яны вызначаны. Шмат валакіты з адводам дзялянак пад будаўніцтва».

У чым-жа прычына такіх недарэчнасьцяў? Чаму грашовыя сумы на жыльлёвае будаўніцтва ёсьць, а кватэры ня будуюцца й працоўныя гарадоў і работніцкіх селішчаў гібеюць, мучацца зь дзяцьмі ў жудасных жыльлёвых умовах?

Прычыны ганебнага становішча жыльлёвага будаўніцтва добра разумеюць верхаводы партыі й савецкага ўраду. Асыгноўваючы мільярды рублёў на жыльлёвае будаўніцтва, яны добра ведаюць, што пераважная частка іх застанецца нявыкарыстанымі. Чаму? Бо будаўнічыя матар'ялы ў першую чаргу скарыстоўваюцца на будоўлях цяжкай

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Перад XXI зьездам КПСС

5-га верасьня сёлета Пленум ЦК КПСС пастанавіў склікаць 27-га студзеня 1959 г. «нечарговы» XXI зьезд КПСС, на якім будуць разгледжаны кантрольныя лікі разьвіцьця народнае гаспадаркі СССР на 1959-1965 гады.

Як ведама, цяпер дзейнічае плян шостай пяцігодкі на 1956-1960 гады, кантрольныя лікі якога былі зацьверджаныя XX зьездам КПСС у лютым 1956 г. паводля дакладу Булганіна, які быў тады старшынём Савету міністраў СССР. Канчатковае афармленьне пляну зацягнулася й на сьнежаньскім пленуме ЦК КПСС у 1956 годзе была прынятая пастанова ў якой гаварылася: «Прадставіць у першым паўгодзьдзі 1957 г. на разгляд і зацьверджаньне Вярхоўнага Савету СССР шосты пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР» («Праўда», 25. 12. 1956 г.).

Аднак шосты пяцігадовы плян так і не атрымаў свайго законнага афармленьня й заместа гэтага нечакана ў верасьні 1957 г. ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову аб распрацоўцы пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР на 1959-1965 гады.

У тым часе «Праўда» так даводзіла неабходнасьць выпрацаваньня гэтага сямігадовага пляну: «На базе багатых рэсурсаў краіны... ёсьць магчымасьць стварыць новыя прадпрыемствы й новыя прамысловыя цэнтры, не прадугледжаныя дырэктывамі шостага пяцігадовага пляну. Зразумела, што за тры гады, якія застаюцца з шостай пяцігодкі, ажыцьцявіць такія вялікія будаўніцтвы немагчыма. Для гэтага патрабуецца ня менш за 5-7 гадоў» («Праўда», 27. 9. 57).

Што-ж атрымалася ў запраўднасьці? Чаму-ж дырэктывы XX зьезду КПСС фактычна былі адкліканыя звычайнай пастановай ЦК КПСС і Саветам міністраў СССР?

Аналіза лікаў выкананьня пляну шостай пяцігодкі за 1956, 1957 й накіды на 1958 год даюць нам магчымасьць зрабіць пэўныя высновы.

Прырост некаторых відаў прадукцыі цяжкай прамысловасьці ў плянах шостай пяцігодкі й фактычнае яго выкананьне прадстаўляецца наступна.

Сярэдняарытмэтычныя тэмпы прыросту ў 6-ай пяцігодцы прадукцыі чыгуну былі заплянаваныя на 3,9 млн. т. у год, а фактычны прырост складаў у 1956 г. 2,5, у 1957 — 1,2 і ар'ентацыйна назначана на 1958 г. — 2,1 млн. т. у год. Адпаведныя лікі для сталі — 4,6; 3,3; 2,4; 2,6; для пракату — 3,6; 2,5; 2,4; 2,5; для вугля — 40,6; 28,0; 16,8; 26,0; для электраэнэргіі ў млрд клв гадз. — 30,6; 21,9; 17,5; 21,5.

Такім чынам у васноўных відах прамысловасьці шостай пяцігодкі плян тэмпаў прыросту прадукцыі ў разгляданыя гады значна недавыкананы.

Савецкае кіраўніцтва ўжо пасьля першага году (1956) дзейнасьці гэтага пляну, г. зн. пад восень 1957 г., поўнасьцяй пераканалася, што ўвесь пяцігадовы плян знаходзіцца пад загрозай правалу. Дапусьціць такое палажэньне з чыста прапагандовага гледзішча ЦК КПСС ня лічыў магчымым і палічыў за лепшае замяніць яго новым 7-гадовым плянам.

Разглядаючы іншыя галіны народнае гаспадаркі, неабходна адзначыць вылучна дрэннае палажэньне ў будаўніцтве.

Асабліва-ж дрэнна стаіць справа з энэргэтыкай. Тэмпы прыросту прадукцыі электраэнэргіі зьнізіліся амаль на 50% і заместа заплянаванага штогадовага прыросту ў шостай пяцігодцы ў памерах 30,6 млрд. клв гадз., склалі ў 1957 г. толькі 17,5.

У сувязі з гэтым, а таксама з чыста стратэгічных меркаваньняў дэканцэнтрацыі пунктаў вытворчасьці электраэнэргіі, практыкаванае будаваньне магутных гігантаў-гідраэлектрастанцыяў прызнана нерэнтабельным і павінна быць закансэрваванае ды заменена больш танным будаваньнем цеплавых электрастанцыяў, будаўніцтва якіх можна праводзіць двойчы хутчэй («Праўда», 11. 8. 58).

Не апошнюю ролю ўва ўсім гэтым адыграла й перабудова кіраўніцтва прамысловасьці, у выніку якое паўсталі саўнаргасы.

Шматлікія саўнаргасы адчулі сябе самастойнымі гаспадарча-дзяржаўнымі фармацыямі. Кіраўніцтва саўнаргасаў пачало фактычна адыходзіць ад прынцыпу прымату цяжкай прамысловасьці. Асыгнаваньні на прамысловасьць агульнасаюзнага значэньня пачалі расходавацца на мясцовыя патрэбы вобласьцяў, краёў, рэспублік, на «незаконнае» пабольшаньне заработнай платы працоўнага жыхарства. Перасталі плянамерна выконвацца каапэраваныя пастаўкі ўсесаюзнага значэньня ў іншыя саўнаргасы.

Наколькі падобныя зьявішчы маюць масавы характар, можна судзіць паводля таго, што 24 красавіка 1958 г. прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР выдаў указ «Аб адказнасьці за нявыкананьне плянаў і заданьняў у пастаўках прадукцыі» («Ведомости Верховного Совета СССР», № 9, 1958 г.).

У пачатку жніўеня 1958 г. прэзыдыюм ЦК КПСС правёў расьсьледаваньне дзейнасьці саўнаргасаў і прыняў пастанову, у якой гаварылася, што: «Падобныя парушэньні дзяржаўнай дысцыпліны, калі іх у час найбольш наважана ня спыніць, могуць дэзарганізаваць нашую плянавую сацыялістычную эканоміку й прынесьці шкоду народнай гаспадарцы».

Паведамленьні прэсы сьветчаць, што ўсё часьцей і часьцей навет партыйнае

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Перад XXI зьездам КПСС

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

кіраўніцтва на мясцох дзейнічае ў інтарэсах свае рэспублікі, вобласьці, гораду, мясцовага жыхарства, не падпарадкоўваючыся сьлепа загадам цэнтру. «Справа дайшла да таго, што пералічаныя партыйныя камітэты ў радзе выпадкаў прымушалі кіраўнікоў гаспадаркі праводзіць няплянавыя работы ў карысьць мясцовых інтарэсаў». («Правда», 3. 8. 58).

Ня лепш стаіць справа і ў сельскай гаспадарцы. Сталы крызіс у гэтай галіне змусіў савецкае кіраўніцтва адступіць ад некаторых артадаксальных прынцыпаў, характэрных савецкай сыстэме вядзеньня сельскае гаспадаркі. Савецкае кіраўніцтва было змушанае пайсьці на цэлы рад уступак, як ліквідацыя МТС і прадаваньне тэхнікі калгасам, скасаваньне абавязкавых дзяржаўных пастанавак, павышэньне цаны на дзяржаўныя закупкі й г. д.

Аднак і правядзеньне гэтых мерапрыемстваў не разьвязвае праблемы сельскае гаспадаркі. Нягледзячы на тое, што сёлетні ўраджай у СССР у сярэднім добры, аднак побач прапагандова-хвалебных паведамленьняў, у савецкай прэсе адчуваецца паважнае занепакаеньне зборам ураджаю й ходам дзяржаўных нарыхтовак.

Справа ў тым, што дзякуючы скасаваньню МТС ладная частка мэханізатарскіх кадраў, скарыстаўшы з гэтага, уцякла зь мясцовасьцяў зь цяжкімі ўмовамі працы. У выніку-ж у шматлікіх мясцовасьцях парк сельскагаспадарчых машынаў перад уборкай аказаўся прыкладна на палову неадрамантаваным. Шматлікія калгасы наагул адмовіліся ад купляньня машыннага парку.

Нягледзячы на ўсе гэтыя агульнапрызнаныя недахопы й правалы ў сыстэме народнае гаспадаркі СССР, уся савецкая прэса ў артыкулах і паведамленьнях, прысьвечаных XXI зьезду праклямуе нябывалыя дасягненьні савецкае народнае гаспадаркі. У «Правде» (10. 9. 58) на дзьвёх газэтных бачынах падаюцца некаторыя матар'ялы з рыхтаванага да выданьня зборніку Цэнтральнае статыстычнае ўправы — «СССР у ліках». Умелым падборам лікаў савецкае кіраўніцтва хоча паказаць быццам вялізарныя дасягненьні народнае гаспадаркі за апошняе трохгодзьдзе.

Фактычна ўрачыстае абвешчаньне дасягненьняў народнай гаспадаркі ў савецкай прэсе змушае сумлявацца ў неабходнасьці скліканьня нечарговага зьезду, прысьвечанага зацьверджаньню новага гаспадарчага пляну. Калі дасягненьні савецкае гаспадаркі запраўды такія вялікія, дык ня трэба было-б адкідаць плян незакончанай шостай пяцігодкі, распрацоўваць новы плян ды склікаць для зацьверджаньня яго нечарговы зьезд; больш правільна й лягічна было-б, закончыўшы ўдачна шостую пяцігодку, на чарговым XXI зьезьдзе ў 1960 годзе зацьвердзіць новы сямігадовы плян.

Трэба таксама спыніцца й на некаторых арганізацыйных пытаньнях XXI зьезду. На XVIII зьезьдзе прысутнічала 2 035 дэлегатаў, на XIX — 1 359, а на XX — 1 436 дэлегатаў. Цяпер норма прадстаўніцтва — 1 дэлегат ад 6 000 выбаршчыкаў.

Няма ніякіх асноваў думаць, што колькасьць сяброў партыі за тры апошнія гады значна ўрасла. Наадварот, апошнімі гадамі можна было заўважыць тэндэнцыю пэўных уцёкаў з партыі («Партийная жизнь», № 6, 1958 г.). Дапускаючы рост партыі ў такіх-жа памерах як і між XIX і XX зьездамі, можна лічыць, што цяпер налічваецца каля 7,5 мільёнаў сяброў і кандыдатаў партыі. Такім чынам, пры новай норме прадстаўніцтва, на XXI зьезьдзе будзе прысутнічаць толькі каля 1200-1250 дэлегатаў. Зьменшаньне колькаснага складу зьезду ў параўнаньні з папярэднімі зьездамі сьветчыць аб тым, што кіраўніцтва ЦК КПСС, дакладна падрыхтоўваючы зьезд, відаць баіцца празьмернай самастойнасьці ў выказваньнях на зьезьдзе. Ня выключана таксама магчымасьць увядзеньня ў парадак дня й іншых больш важных пытаньняў, абмеркаваньне якіх лепш праводзіць пры меншай колькасьці дэлегатаў поўнасьцяй надзейных з гледзішча цяперашняга кіраўніцтва ЦК КПСС.

Якія-ж можна зрабіць агульныя высновы?

Ня выключана магчымасьць, што ў новым сямігадовым пляне будуць зроблены пэўныя ўступкі ў бок узмоцніўшайся апошнім часам у саўнаргасах, урадах і ЦК КП саюзных рэспублік тэндэнцыі праводзіць капіталаўклады ня толькі ў цяжкую індустрыю, але й на забясьпечаньне патрэбаў жыхарства ў культурна-бытавым дачыненьні, а таксама на збольшаньне прадукцыі тавараў народнага ўжытку.

Новы сямігадовы плян, зразумела, ня будзе зьяўляцца палёгкай для народу, аднак тэмпы прыросту ў асноўных галінах прадукцыі будуць бязумоўна зьніжаныя.

Скліканьне XXI зьезду КПСС выкарыстоўваецца ўжо цяпер савецкім кіраўніцтвам у наступных кірунках: на працягу перадзьездаўскага пэрыяду, кіраўніцтва ЦК КПСС імкнецца дабіцца, пры дапамозе ўзмоцненай прапагандовай кампаніі, агульнага падняцьця прадуктыўнасьці працы й збольшаньня тэмпаў вытворчасьці ўва ўсіх галінах народнае гаспадаркі.

Узмоцненай прапагандай вакол зьезду кіраўніцтва ЦК КПСС стараецца скрыць перад жыхарствам і перад вонкавым сьветам запраўднае палажэньне ў народнай гаспадарцы СССР.

Кіраўніцтва ЦК КПСС будзе пробаваць задзіночыць партыйныя кіраўнічыя кадры вакол сябе й даць адпор тэндэнцыям да дэцэнтралізацыі й да аслабленьня прымату цяжкай індустрыі ў эканамічнай палітыцы.

# Юбілейны хвальш і запраўднасьць

Да 40-годзьдзя БССР у БССР выдаюцца некалькі (ня вельмі шмат) манаграфіяў і зборнікаў дакумантаў, прысьвечаных гісторыі гэтага дзяржаўнага твору. З гэтае нагоды зьмяшчаецца таксама шмат успамінаў, «навуковых» артыкулаў, хронікальных заўвагаў і хронікі падзеяў у пэрыядычнай літаратуры. Аднак усё гэта — напампованы хвальш, што дыхае адной «удзячнасьцяй» партыі й расейскаму народу, якія, аказваецца, «асноўваючыся» на волі беларускага народу, далі гэтаму народу ягоную, першую ў гісторыі, дзяржаўнасьць.

Адным з падобных хвальшаў можна лічыць наступную хранікальную заўвагу, што была зьмешчаная на 130 бачынцы другога нумару часапісу «Советская отчизна» за бягучы год. У ёй зазначана: «13—16 сакавіка 1924 году ў Менску, у памешканьні Дому культуры на вуліцы Валадарскага праходзіў 6-ы Ўсебеларускі Надзвычайны зьезд Саветаў. Зьезд быў прысьвечаны пытаньням, зьвязаным з пашырэньнем тэрыторыі БССР. Расейская Савецкая Фэдэратыўная Рэспубліка **дабравольна**, згодна жаданьню працоўных, аддавала Беларусі землі, якія зь незапамятных часоў былі заселеныя ў большыні беларускім насельніцтвам. У склад БССР пераходзілі такія буйныя цэнтры, як Гомель, Віцебск і другія. На зьезьдзе прысутнічаў і выступаў з прамовай 17 сакавіка М. І. Калінін . . .»

Такі зьезд адбыўся, ведама. Зь якой помпай ён праходзіў і ў якіх мэтах рабілася гэтая помпа — пра гэта пасьлей. Цяпер-жа затрымаемся на так званай «расейскай дабравольнасьці» ці на гісторыі ўтварэньня БССР ды ўзбуйненьня яе.

Падобна таму, як беларускае пытаньне ігнаравалася царызмам і ўрадам Керанскага, яно, як нацыянальнае пытаньне наагул, доўгі час ігнаравалася таксама й бальшавікамі, у тым ліку Ленінам і Сталінам. Прытрымоўваючыся старой традыцыі расейскай вялікадзяржаўнасьці, яны навет адмаўлялі этнічныя правы народу, усьцяж называючы Беларусь Заходня-Паўночнай вобласьцяй ці краем Расеі. З гэтым назовам яны не парывалі на працягу ўсяго 1918 году, навет пасьля разгону I Усебеларускага Кангрэсу, што быў скліканы ў Менску ў другой палавіне сьнежня 1917 году для абмеркаваньня дзяржаўнага ўладжаньня Беларусі. Перад гэтам-жа брутальным крокам бальшавікоў была аднак абвешчаная так званая «Дэклярацыя правоў народаў Расеі», што «давала» гэтым народам права ня толькі на самавызначэньне, але й на аддзяленьне ўлучна з утварэньнем самастойных незалежных нацыянальных гаспадарстваў.

Як ведама на працягу 1918 году, хоць ува ўмовах нямецкае акупацыі, беларуская справа ня толькі разьвівалася ў Беларусі, але яна знаходзіла сабе прыхільнікаў і па за яе межамі. Будучы зьвязанымі Берасьцейскай умовай ды як і акупанты, Немцы не падтрымоўвалі ідэі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва, што асабліва выявілася ў іхняй забароне ўсялякіх тварэньняў вайсковых адзінак, але наагул на разьвіцьцё незалежніцкага руху як такога яны глядзелі праз пальцы. У гэтых умовах выбраная I Усебеларускім Кангрэсам Рада і яе Выканаўчы Камітэт Устаўнымі Граматамі ад 9 і 25 сакавіка абвяшчаюць незалежную Беларускую Народную Рэспубліку на ўсіх этнаграфічных беларускіх землях, выступаючы такім чынам супраць Берасьцейскае ўмовы, якая была падпісаная між бальшавікамі й Немцамі 3 сакавіка ды рэзала беларускае цела на некалькі дробных частак. Разам з абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі, Рада БНР скансалідоўвае таксама нацыянальныя сілы ў краі ды дзеіць на дыпляматычным полі, дамагаючыся прызнаньня БНР.

Тым-жа часам бальшавікі, каб заглушыць і скампраметаваць беларускі нацыянальна-вызвольны рух, аб'яўляюць БНР нямецкім творам, прымушаючы адначасна й Беларусаў-бежанцаў, што апынуліся ў Расеі ў выніку вайны, і тых Беларусаў зь незанятых Немцамі тэрыторыяў выносіць падобныя пастановы на так званых скорасьпечаных зьездах, скліканых імі, ці на прынагодных мітынгах, сулячы адначасна ім «расейскае братэрства» і «непадзельнасьць» з Расеяй. Гэта аднак не магло прыпыніць беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

I вось у канцы 1918 году ў ЦК РКП(б) «зраджаецца» ідэя ўтварэньня Савецкай Рэспублікі Беларусі. 25 сьнежня расеяц Мясьнікаў, ён-жа й лідар абласнога ка-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Адказ, на які Хрушчоў заслужыў

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Сярод эўрапэйскіх дэфэтыстых і пацыфістых падыймаецца паніка, што Амэрыка быццам пайшла за далёка й таму над сьветам павісла сур'ёзная загроза новае сьветавае вайны.

Ключ для належнага зразуменьня сяньняшняй сытуацыі знаходзім у прамове прэзыдэнта Айзэнгаўэра, сказанай 12 верасьня да амэрыканскага народу. Прэзыдэнт Айзэнгаўэр асьветчыў:

«Цяперашняя сытуацыя, хаця цяжкая, не зьяўляецца ў ніякім выпадку ані безнадзейная, ані распачлівая. Ня будзе ніякага апэсмэнту. I я перакананы, што ня будзе так-жа ніякай вайны. Павінна быць аднак цьвярозае зразуменьне амэрыканскім народам, што нашыя нацыянальныя мэты выстаўленыя ўзноў на пробу тымі, якія ўсюды загражаюць міру й свабодзе». Таму, — сьцьвердзіў прэзыдэнт Айзэнгаўэр — Амэрыка не спалохаецца ніякай агрэсіі і не аддасьць камуністым ніводнай пядзі зямлі вольнага сьвету.

Гэтыя словы, сказаныя амэрыканскім прэзыдэнтам, ня былі пушчаныя на вецер. Аб гэтым сьветчыць уся далейшая цьвёрдая палітыка Задзіночаных Штатаў, далейшая канцэнтрацыя амэрыканскіх збройных сілаў у раёне Фармозы, адмова Амэрыкі й ейных саюзьнікаў паставіць на парадку дня цяперашняй сэсіі АЗН пытаньня прыняцьця ў склад Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў камуністычнага Кітая. Напасьледак, аб гэтым сьветчыць і факт, што прэзыдэнт Айзэнгаўэр адмовіўся прыняць апошні ліст Хрушчова.

У цяперашнім далёкаўсходнім канфлікце Амэрыка знаходзіцца адзінокай і дзеіць без сваіх эўрапэйскіх саюзьнікаў. Праўда, брытанскі прэм'ер заявіў, што ягоны ўрад супраць усякай агрэсіі, якая праводзіцца сілай, але тут-жа дадаў, што ў пытаньні прыбярэжных абтокаў нацыянальнага Кітая Вялікабрытанія ня мае ніякіх забавязаньняў.

З другога, аднак, боку тое, што Амэрыка на Далёкім Усходзе дзеіць сяньня без саюзьнікаў, а навет наперакор саюзьнікам, можа мець і пазытыўныя вынікі. Амэрыка мае цяпер разьвязаныя рукі і не патрабуе, як у часе Карэйскай ці Індакітайскай вайны, аглядацца на саюзьнікаў і лічыцца зь іхнай палітыкай уступак. Можа яшчэ не адна сотня тысяч разарвацца гарматных стрыльнаў на абтоку Кімой, можа быць зробленая камуністымі яшчэ не адна правакацыя, а з Масквы й Пэкіну можа выйсьці яшчэ не адна пагроза пад адрысам Амэрыкі, але ані кітайскія, ані савецкія камуністыя вайны не распачнуць, пакуль будуць бачыць цьвёрдую, наважаную і гатовую на ўсякую эвэнтуальнасьць пазыцыю Амэрыкі.

**Язэп Каранеўскі**

# Мільярды ёсьць, а кватэраў няма...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

прамысловасьці й такіх, што служаць узмацненьню савецкага мілітарнага патэнцыялу. Туды-ж накіроўваецца й працоўная сіла. На жыльлёвае-ж будаўніцтва йдуць толькі рэшткі будаўляных матар'ялаў, якіх далёка не хапае, каб забясьпечыць пляны будаўніцтва кватэраў згодна грашовых асыгнаваньняў.

Усе санаторыі й дамы адпачынку, гэтак на ўсе лады раструбленыя савецкай прапагандай, ні ў якім выпадку ня могуць кампэнсаваць утраты здароўя дарослымі, хваравітага разьвіцьця маладога пакаленьня ў сем'ях працоўных масаў.

Паводля афіцыяльных дадзеных у Савецкім Саюзе на душу жыхарства выпадае толькі 5,6 кв. мэтраў жыльлёвай плошчы (на Беларусі, зруйнаванай апошняю вайною, і таго менш), гэта значыць 18% тае плошчы, якой карыстаецца жыхарства ЗША.

Камуністычная прапаганда аб разьвіцьці жыльлёвага будаўніцтва ў СССР зьяўляецца чарговым ашукваньнем працоўных масаў.

**В. Б.**

**Аляксей Кулакоўскі**

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ 7)

Андрэіха падзьмула на хлеб, абедзьвюма рукамі прыціснула яго да грудзей і моўчкі рушыла да хаты. Дома яна паставіла хлеб на талерцы ў печ, а сама пачала жвава хадзіць па хаце й расьціраць рукі.

«Разьеўся, — падумала яна пра старшыню, — яго й без адзежы мароз ня пройме».

Ляснула клямка ў сенцах, і ў хату віхрам уляцела Даша. Яна была бязь верхняй вопраткі толькі белы роблены шалік, накінуты на валасы й перакручаны на шыі, вісеў адным канцом на грудзях, а другім на плячах.

— Чаму так позна, цётка Настуля? — адразу зьвярнулася яна да гаспадыні. — Я ўжо забягала да вас. Хіба там на фэрме што?

— Я ня з фэрмы, — здымаючы зьзяблымі рукамі сьвітку, сказала жанчына. — У ларку была. — Яна паказала вольнай рукой на засланку ў печы. — Выскачыла адтуль, як з лазьні, бягу дадому, а тут Шулаў насустрач.

— Пра вяпрука? — засьмяяўшыся, папыталася Даша.

— А то пра што-ж? Я ўжо ня ведаю, калі я набяруся сьмеласьці плюнуць гэтаму чалавеку ў вочы.

Андрэіха пачала прабаваць паддзець пальцамі пад вешалку ў сваёй сьвітцы, ды ня выходзіла гэта ў яе, бо не разьгіналіся пальцы.

— Дайце я вам памагу, — падбегла да яе дзяўчына. — Ой, як вы зьмерзьлі! Дайце патру рукі!

Лёгкім рухам галавы яна дапамагла свайму шаліку спаўзьці з валасоў на шыю, і твар яе стаўся больш сьветлым і ажыўленым, галава пакруглела.

— Так доўга ў ларку? — зьдзівілася яна.

— Ды не. Тут яшчэ Шулаў на вуліцы сьпяваў мне свае вясёлыя песьні.

— От заўтра ён у мяне засьпявае! — раптам із злосьцяй і абурэньнем прамовіла дзяўчына. — Так засьпявае, што на ўсе Дабрасельцы будзе чутно.

— Што-ж ты яму зробіш? — Андрэіха крыху сумелася, заўважыўшы на твары дзяўчыны запраўдную рашучасьць. — Выганіш кормніка з фэрмы?

— I выганю, думаеце, не? У праўленьне калгасу заганю! От пабачыце!

— Не чапай, няхай яго сарочка не чапае.

Андрэіха, трохі разагрэўшы рукі, пачала хуценька падганяць хатнія справы. Даша глянула ў вадзін кут, у другі, адразу зразумела, што тут, дзе трэба, і таксама ўзялася за работу. У чужой хаце ў яе выходзіла ўсё гэтак-жа спрытна й ладна, як і ў сваёй.

— А што-ж вы будзеце вячэраць, цётка Настуля? — спыталася яна ў гаспадыні, калі ўжо была падоена карова, напоены лысы бычок і прыведзена ўсё да ладу каля печы. У рабоце прайшла ў дзяўчыны злосьць на Мокруціху, на Шулава, настрой палепшыўся, і твар зноў зайграў маладой весялосьцяй.

— От малака сьвежанькага наліем, — сказала Андрэіха, — дый павячэраем. Можа й ты разам?

— Не, я перакусвала, — пасямейнаму сказала Даша. — А гарачага ў вас і няма нічога?

— Ды хіба выстаіць з самага ранку?

— Пачакайце!

Праз некалькі хвілін дзяўчына зноў убегла ў хату, на галаве ў яе быў той-жа самы белы шалік, але пярэдні расшыраны канец яго прыкрываў нешта круглае, загорнутае ў ручнік. Прытрымоўваючы гэтую рэч аднэй рукой, дзяўчына ўзяла на прыпечку драўляны кружок-падстаноўку, паклала на стол і прыгнулася над ёй із сваім нязвычайным падарункам. Калі адступіла на крок, трымаючы пад локцем ручнік, з падарунку клубком паваліла пара — гэта быў чыгунок толькі-што зваранай бульбы.

— Усёроўна, як ведала, — радасна сказала Даша, — два чыгуны наабірала — паставіла: адзін мужчынам, а другі вось нам з вамі.

Бульбу высыпалі ў міску, і смачны пах ад яе паплыў па ўсёй хаце. Побач зь міскай Андрэіха паставіла гладышык малака. Жанчыны пачалі вячэраць, і ўсе дзённыя клопаты й няпрыемнасьці неяк міжволі адплылі, пакінулі хатні прытулак.

На вуліцы пачуліся галасы: спачатку дзявочыя, а потым нехта з хлопцаў гаварыў дробна й весела:

— У цябе ёсьць канспэкт па «левізьне»?

— Не, мы «левізны» не канспэктавалі, — адказала дзяўчына.

— Студэнты прыехалі, — зірнуўшы на вакно, заўважыла Даша. — Канікулы.

Пасьля гэтага яны вячэралі моўчкі, але ў кажнай былі свае думкі, свае ўспаміны. «Куды-ж яны пойдуць, студэнты? — брала цікавасьць Дашу. — Можа да нас? — Прыслухалася да галасоў. — Не, мінаюць двор, пайшлі далей. Няхай сабе йдуць».

У Дашы няма ніякай крыўды за тое, што хлопцы мінулі яе двор. Што ёй гэтыя студэнты? Ёсьць яны ці няма. От, каб прыляцеў той студэнт, з крыльцамі на пагонах! Каб гэта яго голас пачуўся на вуліцы! Давялося-б, напэўна, цётцы Настулі адной даядаць бульбу, не ўсядзела-б тады дзяўчына ў хаце.

Андрэіха таксама думала пра студэнтаў, толькі не пра чужых Былі ў яе некалі свае студэнты. Адзін вучыўся на другім курсе пэдінстытуту перад вайной, а другі канчаў дзесяцігодку. Хадзілі вось гэтак-жа па сваёй вуліцы ў час канікулаў, сьпявалі песьні, а прыходзілі ў хату, дык прыходзіла зь імі ўсё радаснае й шчасьлівае, што было ў жыцьці. Завіруха на дварэ здавалася ласкавай.

— Дзякуй табе, Даша, — сказала нарэшце гаспадыня, — адагрэла ты мяне.

На дварэ, відаць, пачынаў мацнець вецер, бо сухі малíньнік, хоць яшчэ й ціха, але пачынаў ужо шкрабаць па шыбе. Гэты шкрэбат заўсёды нагадваў Андрэісе пра холад, сьцюжу і, чамусьці, пра людзкое гора, хоць пра яго й не хацелася думаць. Ужо колькі разоў зьбіралася залезьці ў вагародчык, ды выламаць гэты надакучлівы куст. Але неяк шкада ламаць сваё, звычнае, хоць, можа, і ня надта патрэбнае. Не падымаліся ў жанчыны рукі, каб што-небудзь зламаць, папсаваць і тым больш — хоць пальцам крануць што-небудзь жывое. Вунь у хляве — бычок. Перавяла ўчора зь сянец. Каб усё на лад, то яго ўжо даўнавата трэба было-б зарэзаць, але-ж як тут і падумаць аб гэтым, Зойдзеш, а ён глядзіць на цябе такімі яснымі й даверлівымі вачыма.

Жанчына ведае, што калі-б папрасіла яна Мітрафана асьвежаваць бычка, то некалькі сутак ня ела-б ня толькі гэтай сьвежаніны, а й нішто іншае не пайшло-б у рот.

Маліньнік зашкрабаў мацней, нібы просячыся ў хату, і гаспадыня міжвольна здрыганулася, ёй здалося, што з акна пацягнула холадам. Устала, забрала са стала чыгунок, міску, гладышок зь недаедзеным малаком і занясла ўсё гэта ў мыцельнік. Праз хвіліну зноў села каля стала, склала на грудзёх рукі, але сядзела так зусім ня доўга. Ня было звычкі ў жанчыны сядзець склаўшы рукі. Навет калі й пагаварыць давозілася зь кім і цікавасьць у гаворцы разьбірала, дык і то заўссёды шкада было часу, усё здавалася, што няма на гэта права, усё рупіла якая-небудзь неадкладная работа. Выняўшы з запечча некалькі маткоў шарсьцяных нітак, яна пачала на-

# Аб Майсееўскім трыумфе, нашым „Юрачку“ ды аб тым-сім іншым

Шмат маіх сяброў даўно ўжо прасілі мяне напісаць аб сваіх поглядах і ўражаньнях, выкліканых гастролямі Дзяржаўнага Ансамблю народнага танцу СССР пад мастацкім кіраўніцтвам Ігара Майсеева. І толькі цяпер апошнія паведамленьні савецкіх газэтаў падштурхнулі мяне да выступу ў друку, ня гледзячы на тое, што гастролі прайшлі і некаторыя беларускія эміграцыйныя аўтары ўжо далі ў сваіх зацемках рад слушных і патрэбных заўвагаў. На маю думку гастролі ансамблю Майсеева гэтак нашумелі ў Амэрыцы, Канадзе й Эўропе, гэтак яскрава паказалі сваю істоту, што заслугоўваюць больш глыбокага разгляду, як зьявішча прынцыповага з боку мастацкага жыцьця ў СССР наагул, і, асабліва, з боку ягонай нацыянальнай прыроды.

Я хачу падыйсьці да майсееўскіх выступаў, маючы на ўвазе іхнае прапагандовае савецкае значаньне, мастацка-эстэтычныя ўражаньні й нацыянальна-стылёвую вартасьць.

Перш-на-перш трэба мець на ўвазе тую акалічнасьць, што гастролі ансамблю Майсеева — гэта першаая савецкая ластаўка, што прыляцела ў Амэрыку пасьля падпісаньня (зь цяжкасьцямі й перашкодамі) пагадненьня аб культурным супрацоўніцтве СССР і ЗША, ды што гэты ансамбль перш за ўсё йграў ролю пасланца савецкай дзяржавы, які мусіў ня толькі рэпрэзэнтаваць Савецкі Саюз, але й заваяваць да яго сымпатыі й прыхільнасьць пры дапамозе мастацтва. Пры сустрэчы яго ў Нью Ёрку сам Майсееў казаў: «Мы прыехалі сюды ў рамках гэтак званае культурнае вымены між СССР і ЗША. Наша мэта... адкрыць Амэрыканцам «душу культуры» савецкага народу».

Савецкі ўрад меў шмат кандыдатаў на такі першы паказ у рамах культурнае вымены, аднак ансамбль Майсеева. відаць, аказаўся для партыйных колаў найбольш падыходным, каб выканаць высокае палітычна-прапагандовае заданьне.

Чытаючы паведамленьні ў савецкіх газэтах (Советская культура», 9. 8. 58) аб узнагародах майсееўскага ансамблю (сам ён узнагароджаны ордэнам Леніна), мы пераконваемся, што ўрадавыя заданьні ансамбль выканаў, як кажуць, на ўсе сто працэнтаў.

У рэпэртуары ансамблю, бяссумлеўна, бачна прадуманасьць і разьлік. Ці-ж выпадкова сталася, тое што найбольшую сэнсацыю выклікаў нумар «Партызанская», якую ўсе называюць цудам і казкаю? Мэтанакіраванасьць «Партызанскай» зусім ясная. Яна мусіла прыцягнуць увагу да савецкай тэматыкі ды паказаць савецкі патрыятызм, што й было дасягнута праз тонкі, умела й вынаходліва пададзены прапагандовы трык. Тэй-жа мэце адказвала й спартовая сцэнка «футбол», зь першага пагляду простая, наіўная, навет з намаганьнямі даць сатырычны малюнак на савецкае спартовае жыцьцё («глядзеце — і мы крытыкуем!), але ў сутнасьці так пададзена, што выкарыстоўвала гэтую прастату, наіўнасьць, гумар і жартаўлівасьць ізноў-жа на складаньне ў глядача сымпатыі да «мірнага» быту савецкае моладзі.

Дзіўна, што такія атрыбуты савецкай прапаганды, як узьняты тонус насычанасьці выступаў, выкананьне савецкага гімну, «мірныя» прамовы, нізкія паклоны, прысутнасьць савецкай амбасады й г. д. — засталіся амаль што незаўважанымі (апрача пару галасоў у «Новом Русском Слове») крытыкай і рэцэнзэнтамі.

Хачу зацеміць тут і тое, што сама ідэя паказаў танцаў розных народаў была накіравана на тое, каб паказаць, з аднаго боку дружбу народаў СССР, а з другога — вынікі савецкай нацыянальнай палітыкі. У прэсе-ж гэта не атрымала належнага асьвятленьня, ня было правільна зразуметае й пададзенае шырокаму грамадзтву.

Вельмі прыемна, што нашае беларускае эміграцыйнае грамадзтва ў пераважнай бальшыні, як відаць, не забылася на тую ролю й функцыю, што выконваў ансмбль Майсеева й прыняло яе на ўвагу пры складаньні свае апініі на выступы савецкага пасланца.

Мастацка-эстэтычныя ўражаньні ад гастроляў ансамблю Майсеева ў ЗША, Канадзе й пазьней на Брукэльскай сусьветнай выстаўцы адносяцца да найбольш захапляючых. Бэльгійскія крытыкі называюць майстэрства ансамблю проста незраўнальным зь нічым іншым, перавышаючым усё, што да гэтага часу было ў сусьветным выканальніцтве.

Тым ня менш, уважлівага крытыка ня могуць ня цікавіць усё-ткі тыя прычыны й элемэнты, якія запэўнілі такія ўдачы Майсееву. Ягоны ансамбль знаходзіцца ў СССР у васаблівым становішчы. Удзельнікі адбіраюцца із самых здольных танцораў усяго Савецкага Саюзу, ставяцца ў добрыя ўмовы прафэсіянальнай працы ды наагул фаварызуюцца кіраўніцтвам. Палітычна-прапагандовыя заданьні рэпрэзэнтаваць СССР перад чужынцамі, акторскі гонар і імкненьне «паказаць сябе» цесна сутыкаецца з кар'ерыстычнымі імкненьнямі набыць імя, дастаць ардэнок, атрымаць прэмію. Ня малым стымулам зьяўляюцца й самыя камандыроўкі ансамблю заграніцу, якія прыносяць ня толькі акторскае задаваленьне, але й магчымасьці пабачыць сьвет, купіць і набыць шмат чаго, што адсутнічае ў «самай перадавой краіне» — СССР. Нельга таксама ня лічыцца з мастацкай таленавітасьцяй народаў СССР. Да гэтага даходзіць яшчэ й сама фігура Майсеева — вельмі здольнага, вынаходлівага чалавека з войстраю й цікаваю думкаю харэаграфічнага пастаноўшчыка, які да таго яшчэ ўмела спалучае сваю мастацкую дзейнасьць з патрабаваньнямі кіраўніцтва й зыгзагамі партыйнай палітыкі.

Гледзячы на выступ ансамблю Майсеева перш за ўсё кідаецца ў вочы нязвычайна руплівае й здысцыплінаванае выкананьне, адшліфоўка кажнай дробязі, рухаў, гэстаў, позаў, танцавальных крокаў, хвігураў, мізансцэнаў, а таксама й мімікі кажнага танцора. Усё гэта знаходзіцца на самай высокай прафэсіянальнай вышыні. Прафэсіяналізацыя распаўсюджваецца й на стварэньне аднолькавага бадзёрага й радаснага настрою ў кажным народным танцы. Задуманае ў выканаўцу ўкладзена й уціснута так моцна й трывала , што выканальніцкія вобразы, лініі й малюнкі зрабіліся нейкім арганічным целам, другім «я». Шмат дапамагаюць тут і выдатна зробленыя строі, якія ўводзяць прыгожыя хварбы й каляровасьць у народных танцах.

З другога-ж боку трэба адцеміць і нязвычайнасьць атмасфэры ў якой праходзілі выступы Майсеева. Калясальная траскучая рэкляма, шырокі бізнэсовы размах, «апрацоўка» апініі з боку савецкай амбасады, камуністычнымі асяродкамі, установамі культурных сувязяў з СССР, цікавасьць і сымпатыі гледача да народнага мастацтва наагул, і асаблівая цікавасьць да таго, што робіцца «там», за зялезнай заслонай, — вось, прыкладна, тыя элемэнты, што нагрэлі тэмпэратуру, прынесьлі **сэнсацыю.** Зусім зразумела, што нэрвовая атмасфэра цэўным парадкам узьдзейнічала й на мастацкую ацэну гастроляў ансамблю.

Што да самай мастацкай вартасьці паказаў, дык тут былі й відавочныя мінусы. Харэаграфічная, танцавальная і, навет, пантамімная прырода паказаў не заўсёды захоўвалася й вытрымоўвалася, іншы раз яна скочвалася на шлях **эстрадна-цырковых трыкаў.** Вельмі характэрна, што гэтыя трыкі якраз і склалі сэнсацыю «Партызанскай». Яшчэ больш яскравы прыклад — гэта «нанайская барацьба» (двух малых — у выкананьні аднаго), якая зьяўляецца зусім чужародным жанрам для танцавальнага паказу і, як тыповы цырковы трык, нічога супольнага з танцам ня мае. Усё гэта гаворыць толькі аб тым, што й Майсееў із сваім ансамблем могуць ісьці на абніжэньне мастацкай харэаграфічнай вартасьці, дазваляць сабе грахі супраць чысьціні стылю, ужываць цырковыя трыкі, каб дасягнуць эфэкту й граць на абывацельскіх густах і настроях. Тут, відаць, мэта змушае выкарыстоўваць усе сяродкі, у тым ліку й сумлеўныя й нявысокапробныя. Застаецца толькі дзівіцца, як падобныя факты засталіся незаўважанымі навет прафэсійнымі крытыкамі й рэцэнзэнтамі? Да такой ступені, значыцца, дзейнічала труцізна сэнсацыі.

Цяпер — што да нацыянальнага боку майсееўскіх выступаў. У пастаноўках ансамблю асноваю служыць народны нацыянальны вузор танцу ды ягоныя асаблівасьці, характар і калярыт, што сам сабою зьяўляецца вялікай каштоўнасьцяй. Я пэўны, што ў гэтым і ў падборы нацыянальных танцаў — галоўная прычына захапленьня. Усе нацыянальныя танцы, што стаяць у праграме Майсеева, ужо ў васнове сваёй раней распрацаваныя й пастаўленыя нацыянальнымі пастаноўшчыкамі-балетмайстрамі ў нацыянальных рэспубліках. Майсееў тут адбірае, пераглядае, папраўляе, шліфуе. Я зусім не хачу зьменшваць таленавітай працы й вынаходлівасьці Майсеева, але, думаю, што было -б больш правільна, аб'ектыўна й тактоўна, калі-б Майсееў сказаў пра сваіх памочнікаў, а ня прыпісваў усю складаную, пасьлядоўную працу аднаму сабе, як гэта стаіць у праграмах гастроляў. Можна сказаць, што нязвычайна высокі ўзровень дасягваецца галоўным чынам за кошт нацыянальнай вартасьці ды папярэдняй адданай працы нацыянальных майстроў.

Зразумела, што кажны паказ народнага танцу на сцэне зьяўляецца **стылізацыяй,** аднак вельмі важна тут і **захаваньне нацыянальнай характэрнасьці ды пачуцьця меры стылізаваньня.** У майсееўскіх пастаноўках, прыкладам, можна заўважыць нейкі налёт, пячатку, імкненьне да ўніфікацыі, падагульненьня народных танцаў, унясеньне ў цэлую праграму аб' яднальнай лініі, кірунку. Выхады танцавальных групаў, характар крокаў, некаторыя рухі й хвігуры, а таксама й часткава самое пабудаваньне танцаў — усё гаворыць аб гэтым. Воляй ці няволяй, Майсееў імкнецца тут выразіць адзіны партыйны прынцып шматнацыянальнага савецкага мастацтва, тую штучную гібрыдызацыю, якая цяпер так модная ў СССР, а якая на самай справе **нівэлюе нацыянальнае мастацтва.**

Што да пачуцьця меры стылізаваньня, дык я, не бяручы на сябе сьмеласьці гаварыць аб паказах танцаў іншых народаў, спынюся толькі на беларускіх скоках, больш мне ведамых. У гастрольнай праграме былі два беларускія народныя танцы — «Бульба» й «Юрачка». Няма найменшае патрэбы пераконваць, што такія танцы аддаўна існуюць у народзе, хоць, дарэчы кажучы, гэта зусім ня выключае існаваньня скочных беларускіх песьняў («Бульба») ці прыпевак («Юрачка»), як іншага мастацкага выразу народнай творчасьці. У народным выкананьні, а таксама і ў беларускіх пастаноўшчыкаў танец і песьня (ці прыпеўка) часта спалучаюцца й красуюць разам.

Трэба аднак адразу падчыркнуць, што балетмайстар Майсееў зусім не зьяўляецца ані аўтарам, ані навет інсцэнізата-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Юбілейны хвальш і запраўднасьць

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

мітэту партыі Паўночна-Заходняй вобласьці, г. зн. Беларусі, вызываецца ў Маскву, скуль ён і прывозіць гатовенькі акт абвешчаньня ССРБ. 30 сьнежня ў Смаленску адкрываецца VI Паўночна-Заходняя абласная канфэрэнцыя РКП(б), якая перайменоўваецца ў I зьезд камуністычнай партыі Беларусі. Заслухаўшы даклад Мясьнікава, гэты зьезд прыймае пастанову аб утварэньні Савецкай Рэспублікі Беларусі й акрэсьлівае ейныя межы. Новавыбраны «Часовы Ўрад» маніфэстам ад I студзеня 1919 году й абвяшчае гэты чыста маскоўска-бальшавіцкі твор.

Тэрытарыяльна й прадстаўніча гэты твор на першых пачатках насіў яшчэ некаторы беларускі характар. Гэтак ён меўся абняць амаль ўсе беларускія этнаграфічныя межы, улучаючы Смаленскую, Магілеўскую, Віцебскую, Менскую й Гарадзенскую губэрні з часткамі Чарнігаўскай і Віленскай губэрняў. Сама Віленшчына зь Вільняй была ўжо аддадзеная створанай незадоўга перад гэтым так званай Летувіскай Савецкай Рэспубліцы. Таксама начале «Часовага Ўраду» быў пастаўлены Беларус З. Жылуновіч. Ува ўрад былі ўведзеныя й іншыя Беларусы. Інакш не магчыма было паступаць, бо гэты бальшавіцкі твор тады яшчэ будаваўся на сьвежых сьлядох БНР ды й палітычна-вайсковыя абставіны ня былі яшчэ выразна на бальшавіцкім баку. Аднак ён ня быў адразу прызнаны РСФСР, як гэта было зроблена, напрыклад, у выпадку Летувіскай, Латвійскай і Эстонскай марыянэткавых савецкіх рэспублік. Гэтаму былі прычынай наагул бальшавіцкае ваганьне ў беларускім пытаньні й галоўна — беларуская тэрыторыя, якую Расейцы заўсёды лічылі за сваю.

У гэты час у Маскве ўжо дасьпяваў другі плян, а пайменна адарваньня ад толькі што абвешчанай БССР (ў той час да 1924 году — ССРБ) усіх беларускіх усходня-паўночных земляў ды зьліцьця куртатай БССР зь Летувіскай ССР. З гэтай мэтай на 2—4 лютага 1919 году ў Менску быў скліканы так званы I Усебеларускі зьезд Саветаў. На ім зачыталася Сьвярдловам пастанова Прэзыдыюма Усерасейскага цэнтральнага выканаўчага камітэту аб прызнаньні БССР, праўда ўжо ў вапошні дзень зьезду. Аднак у гэтай пастанове, якая была вынесеная 1 лютага, зазначалася ўжо «пажаданьне працоўных Беларусі зьліцца з працоўным народам Летувы». Вось, згодна гэтых указаньняў Масквы I Усебеларускі зьезд Саветаў «дабравольна» зракаецца на карысьць Расеі ўсяе Віцебшчыны, Смаленшчыны, Магілеўшчыны й Гомельшчыны, дэкрэтуе ўтварэньне БССР, прыймае канстытуцыю БССР, выносячы адначасова пастановы аб навязаньні цясьнейшых фэдэратыўных сувязяў з РСФСР і аб'еднаньні зь Летувіскай Савецкай Рэспублікай. Ён-жа таксама адсоўвае З. Жылуновіча ад старшынства ўва ўрадзе БССР, назначаючы на гэтае становішча расейца Мясьнікава, ды выганяе з ураду й другіх Беларусаў: што-ж вазіцца з сэпаратыстымі, якія яшчэ ў Смаленску, пры склейваньні першай БССР, дамагаліся ўтварэньня асобнай **беларускай камуністычнай партыі,** а не камуністычнай партыі Беларусі як абласной сэкцыі РКП(б), ды абаранялі правы Беларусаў на свае этнаграфічныя межы.

Такім чынам за адным махам было забіта ажно чатыры зайцы, якія пайшлі на карысьць аднаго расейскага катла. Так-жа прапагаваная цяпер абвешчаная 1 студзеня 1919 году ў Смаленску БССР у першай стадыі свайго разьвіцьця была зьведзеная на нішто, да пасьмешак савецкай нацыянальнай палітыкі над нацыянальнымі асьпірацыямі народу.

**П. Залужны**

(Працяг будзе)

---

цягваць іх на матавіла, але Даша адставіла гэтую старажытную прыладу ўбок і спадручылася трымаць маткі сама.

— Можа-ж табе ісьці куды трэба? — спагадліва папыталася гаспадыня. — Там-жа вячоркі недзе, хлопцаў, нябось, напрыходзіла.

— Нікуды не пайду сяньня, — зусім шчыра сказала дзяўчына, — пасяджу з вамі.

— Ты вось навет і не апранаешся каля дому, — пацепваючыся ад думкі пра холад, сказала Андрэіха. — І адзін раз прыбегла ў вадной кофтачцы, і другі.

— Дык у мяне-ж шарсьцяная кофтачка, — заўважыла дзяўчына, — вязаная.

— А мне і ў кажусе іншы раз страшна на мароз выходзіць, — працягвала Андрэіха. — Асабліва ноччу. Вось як засьвішча, зашуміць на двары, дык мяне так і пачынае цягнуць бліжэй да печы. У сенцы то і выйсьці боязна. Усё ўяўляецца мне тады, што нехта недзе мерзьне ў гэты час у дарозе, ідзе пехатою ці едзе на прысталым кані. Завіруха, сьнежныя гурбы вышэй поясу, а перад чалавекам ні дарогі, ні аганька ў далячыні. Жаласьць разьбірае, здаецца, чуеш, як цяжка дыша гэты чалавек, ледзь-ледзь перастаўляючы ногі, бачыш, як ён раз-по-разу паціраe рукі, нос, шчокі — і ўсё ўглядаецца ў цемень перад сабою, усё шукае паратунку. А з жаласьцяй і радасьць у які час прыходзіць. За тое, што ў цябе над галавою страха, што ёсьць печ ня зусім халодная і што ніхто цябе ня гоніць у гэтую часіну з твайго прытулку. Мне часта ўспамінаецца, як мяне вось гэтак-жа захапіла аднаго разу ў дарозе ноч. Ды аб толькі ноч! А то-ж такі віскуцень падняўся быў тады, які ніцы мароз! Душа застывае, як падумаеш.

Маладая суседка з чаканьнем і ўвагай стала паглядаць на жанчыну, а тая, нацягнуўшы ніжэй рукавы й шчыльней зашпіліўшы кароткі, нібы наўмысьля падрэзаны, сачак, відаць, сабралася гаварыць доўга, на ўсе маткі нітак. Даша любіла слухаць цётку Настулю, бо ведала, што тая абы чаго ня скажа й нічога ня прыбавіць да таго, што чула ці бачыла сама.

— Гэта яшчэ да вайны было, гадоў, мабыць, чатыры да вайны. Уладзік мой тады ў шостай клясе вучыўся, а Паўлуша — у восьмай. Пайшлі мы тады з Уладзікам у горад пехатою, каня нам не далі. На дарозе таксама нідзе не пад'ехалі: ня вельмі браў хто такіх, як мы. Дык прышлі ўжо ў добрага поўдня, хоць і выйшлі рана. Колькі таго дня ў гэтую вось пару. Якраз і тады, памятаю, былі зімовыя канікулы. Прышлі, а яшчэ там колькі папастаялі, пакуль нас пусьцілі, куды трэба — мы бацьку хацелі праведаць — дык ужо калі выходзілі з гораду, то...

— Пачакайце трошачкі, — перапыніла жанчыну Даша. — А хіба дзядзька Андрэй там у бальніцы ляжаў?

— Не ў бальніцы, пад сьледзтвам, — спакойна ўдакладніла жанчына. — Хіба ты не памятаеш?

— Памятаю, нешта такое было, — ніякавата моргаючы, сказала дзяўчына, — ды забыла я ўжо.

— Пад сьледзтвам быў, — паўтарыла жанчына. — Захварэў, як толькі яго забралі. Я часта хадзіла ў горад, а той раз упрасіўся й Уладзік: пайду ды ўсё, хачу паглядзець тату. Плача, кажа — сьню бацьку кажную ноч, ды ўсё босага й абадранага, зь вялікай барадою. Хачу паглядзець, які ён цяпер. Я, праўда, не гаварыла, што бацька хворы, але, мабыць, па сьлязох маіх дзеці здагадваліся Ішоў усю дарогу, слупы верставыя лічыў, мяне за руку цягнуў, ня мог дачакацца, калі пакажацца горад. Прыйшоўшы, дрыжаў, бедны, ад хваляваньня, і ня ведаю, што-б тады зь ім было, калі-б, на шчасьце, не павярнулася ўсё ў другі бок. Стаім мы, чакаем, і вось падыходзіць да вакенца адзін ваенны, заве мяне, а потым і гаворыць:

— Ня мерзьні тут, цётка, і не марозь свайго малога. Твой чалавек учора выпушчаны адсюль і пераведзены ў бальніцу.

— Сказаў так і закрыў вакенца. Пачала я стукаць, каб яшчэ папытаць у яго, дык ужо больш і не адкрыў. А тут людзей вельмі многа стаяла. Адыйшліся мы з Уладзікам і ня ведаем, што рабіць. І радасьць бярэ такая, што аж плакаць хочацца, і трывога не пакідае. Ня ведаем, у якую бальніцу ісьці. Можа, у турэмную?

— Ён-жа сказаў, што выпушчаны, — у радасьці гаворыць Уладзік, а ў самога сьлёзы коцяцца па шчаках. — Раз выпушчаны, значыць, тут у гародзкой бальніцы.

Пайшлі мы туды, пытаем. Ёсьць такі, кажуць, калі ласка. Зараз скажам лекару, і вы зойдзеце праведаць. Мы ўжо хацелі дадому вам паведамляць.

І вось бяжыць мой Уладзік па калідоры, я ледзь за ім пасьпяваю. Белы халат на ім ніжэй пят, на мне — таксама.

— Ня грукай ты гэтак, — сварыцца на яго нейкая дактарыца, а ён навет і ня чуе нічога. Прачытаў на бягу нумар палаты й спыніўся ля дзьвярэй: цяжка дыша, вочы блішчаць сьлязьмі. Я пастукала, — чую голас: быццам-бы ён абазваўся, Андрэй. Адчыніла дзьверы й не пасьпела глянуць, дзе ён, на каторым ложку, як Уладзік ужо там. Кінуўся бацьку на шыю, абдымае, цалуе, гладзіць шчокі. А я села на ложку ў нагах і плачу, нічога сказаць не магу...

Андрэіха на хвіліну перастала віць клубок, нахілілася над сталом.

— Ты выбач, Дашачка, што я ўспомніла пра гэтае, — выціраючы кукішкамі вочы, казала яна. — Колькі гадоў прайшло, а як падумаю пра тыя дні, дык аж калаціць мяне пачынае.

— Гаварыце, цётка Настуля, — папрасіла Даша.

— Сяджу я, потым працягвае Андрэй да мяне рукі. Худы ўвесь, жоўты, але нічога: пабрыты, падстрыжаны, усёроўна, як і чакаў гасьцей. Сьмяецца, і твар вясёлы. «Нічога, кажа, усё цяпер добра». Узяла я аберуч яго за галаву. Чарнявы ён у мяне быў, ты-ж памятаеш. Гляджу, — чарнявы то чарнявы, але-ж сярод чорных валасоў ужо ёсьць і белыя. У мяне аж рукі задрыжалі.

— Пасівеў ты, — кажу, — Андрэйка.

А сусед па койцы, пажылы такі чалавек, адказвае:

— Ты, кабетка, не глядзі на валасы, бо яны нічога ня значаць. Важна, што сам чалавек, як той казаў... З чорнага паклёпу чалавек выйшаў. Гэта табе ня жарты.

— Усё прайшло, — падхапіў Андрэй. У голасе радасьць. Бачу, ён навет устаць намагаецца, а чую душою, што нельга яму ўставаць, бо яшчэ слабы. Зьлёг толькі я, — гаворыць далей Андрэй, — вось гэта кепска. Прастыў вельмі. Але нічога, цяпер хутка папраўлюся.

Ён узяў малога за плечы, прыцягнуў да сябе й пачаў нібы пытацца, нібы так сабе гаварыць.

— Спужаўся ты быў у тую ноч. Праўда? — Уладзік кіўнуў галавою. — Перажываў, мабыць, думаў, што бацька й запраўды ў чым-небудзь вінаваты. Выкінь усё гэтае з галавы. Ні ў нічым я ня вінаваты! Ня быў і ня буду! А той, хто хацеў нас ачарніць, хай сам счарнее.

— Паедзем, тата, дадому, — просіць Уладзік.

— А на чым вы тут?

Уладзік неяк жаласьліва паглядзеў на мяне, а што я магу сказаць? Прыйшлі мы, кажу, пехатою, бо ніхто нам каня ня даў.

— Скажы, — кажа, — брыгадзіру, што калі й цяпер ня дасьць, то няхай не паказваецца мне на вочы. Запражэце, што там знойдзецца, ды ў гэтую нядзельку прыяжджайце. — А мы, здаецца, ў ваўторак былі. — Да таго часу, — кажа, — мяне выпішуць з бальніцы.

(Далей будзе)

# Сучасныя міты й мінулае

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» (36/422) Юрка Віцьбіч (Юры Стукаліч) закрануў вельмі цікавае пытаньне ў сваім артыкуле «Аматарам ,ныйпрыгажэйшых паданьняў'».

Сярод расейскіх салідарыстых сяньня хоць адбаўляй такіх аматараў, якія ўжо ўсьпелі забыцца на тыя праступствы, што яны рабілі за гітлераўскай акупацыі ў Беларусі, ды горш яшчэ — ствараюць міты й «найпрыгажэйшыя паданьні», каб, адцягнуўшы ўвагу ад сваіх брудных учынкаў, услаўляць мінулае расейскага салідарызму.

Вельмі добра, што Юрка Віцьбіч у сваім артыкуле адзначыў той факт, што аўтары нарысу пра «рэспубліку» Зуева забываюцца пра існаваньне самых вялікіх карных аддзелаў — расейскіх. Адначасова трэба адцеміць, што забываюцца аб гэтым ня толькі аўтары гэнага нарысу, але наагул бальшыня расейскіх патрыётаў. Яны пішуць аб карных аддзелах украінскіх, летувіскіх, латыскіх, але ні словам аб страшнай чуме на Беларусі — расейскіх вайсковых фармацыях, — дывізіі Камінскага й брыгады Радыёнава, а калі-ж і асьмельваюцца пісаць, дык толькі прадстаўляючы іх, як нейкую інтэрнацыянальную галоту, а не як Расейцаў.

Аб «дзейнасьці» Камінскага да нас (Плiскі раён) даходзілі толькі жудасныя весткі, а з «радыёнаўцамі» давялося сутыкнуцца беспасярэдня. І каб папярэдзіць усялякія «найпрыгажэйшыя паданьні», лічу сваім абавязкам падзяліцца з чытачамі сваімі ўражаньнямі аб гэтай расейскай вайсковай фармацыі, тым больш, што й сам я, можна сказаць, быў «радыёнаўцам», хоць, як ніжэй будзе відаць, даволі абмежаваны час.

Дзесьці раньняй вясной 1943 году пашырыліся ў нас чуткі, што ў недалёкім (каля 20 км.) мястэчку Лужкі знаходзіцца нейкая расейская фармацыя на чале з Радыёнавам, якая мае змагацца з партызанамі. Хоць у нас час-адчасу зьяўляліся партызаны, але ў параўнаньні зь іншымі раёнамі было адносна спакойна, а таму ніхто не зьвярнуў асаблівае ўвагі на гэтых новых «абаронцаў».

І вось пасьля нейкага часу праз нашу вёску прасунуліся збройныя калёны Радыёнава, накіроўваючыся на ўсход. Праз некалькі дзён кажны свае позіркі з трывогай зьвяртаў у той кірунак: там днямі неба чарнела густымі дымамі, начамі яно палала зарывам пажараў (магчыма, што гэта й была тая «акцыя» ў Лепельшчыне, аб якой успамінае Юрка Віцьбіч у сваім артыкуле).

Назад калёны вярталіся абладаваныя ўсялякім сялянскім дабром, з цэлымі стадамі кароў і іншае дамовае жывёлы; п'яныя-ж жаўнеры ня рэдка вязьлі на вазох сваю «ваенную здабычу» — маладых дзяўчат. Адкрыліся вочы сялянам — пабачылі, што за «абаронцаў» нажылі ў суседзтве.

Пасьля гэтае «генэральнае акцыі» пачаліся дробныя налёты «радыёнаўцаў» на бліжэйшыя вёскі, быццам у пошуках партызанаў. П'яная горда звальвалася на вёску як шаранча, рабавала, гвалціла, а пры найменшым супраціве — зьбівала й расстрэльвала. Дайшло да таго, што часамі жыхарства дадзенае мясцовасьці, заўважыўшы загадзя набліжэньне расейскіх аддзелаў (пазнаць іх было лёгка па вялікай колькасьці абозу), шукала аховы, пры нямецкіх «штыцпунктах» ці мясцовых гарнізонах, калі такія былі ў ваколіцы. Бывалі выпадкі й сутычак між мясцовай паліцыяй і «радыёнаўцамі».

Некаторыя могуць сказаць, што ў брыгадзе Радыёнава быў значны працэнт і Беларусаў. Вось-жа спачатку іх там зусім ня было, а потым — так, былі. Апынуліся-ж яны там такім чынам. Пасьля свае першае крывавае акцыі на ўсход ад Глыбоччыны ды некалькіх ня менш крывавых «рэйдаў» у бліжэйшых ад свае «ставкі» раёнах, Радыёнаў пачаў «мабілізацыю» мясцовага жыхарства ў свае рады. Гэта было своеасаблівае мабілізаваньне. Моцны аддзел радыёнаўскіх каральнікаў прыбываў у валасны цэнтр і загадваў старастам склікаць на наступны дзень усіх маладых людзей на антыкамуністычны мітынг. За незьяўленьне — расстрэл. На мітынгу выступаюць ахвіцэры-агітатары, якіх ні мова, ні спосаб гаварэньня ня розьняцца ад савецкіх палітрукоў. Адно толькі — заместа «советская родина», «коммунизм», «вождь Сталин» — чуецца «Россия», «Новая Европа», «Фюрер Гитлер». А на заканчэньне такога мітынгу «палітрук» абвяшчае, што ўсе тут прысутныя зьяўляюцца «добровольцами русской армии». У міжчасе-ж натоўп акружаны па зубы ўзброенымі «радыёнаўцамі», а пад акампаньямэнт дзікага мату пачынаецца фармаваньне яго ў калёны ды адбіраньне дакумантаў, безь якіх нідзе нельга паказацца, каб ня быць палічаным за партызана.

Я чуў пазьней пра некалькі такіх мітынгаў, але на самым першым у нашых ваколіцах (мястэчка Галубічы) давялося быць і самому ды ў выніку стацца «дабраахвотнікам» «русской армии».

Цікава выглядала потым, на другі дзень, падарожжа з «мабілізацыйнага пункту» ў галоўную «ставку» ў Лужках. Падобнага спэктаклю не давялося мне потым пабачыць нідзе й ніколі.

Перадусім шматлікія «дабраахвотнікі змаглі пры дапамозе самагоні й закускі пазбыцца гонару быць «русским воином» — выкупіліся. Гэтага выкупу хапала, каб «радыёнаўцы» ўпалі ў ваяўнічы настрой. Праз усю дарогу трашчэлі скарастрэлы й кулямёты, час-ад часу рваліся гранаты. Усё гэта дзеля таго, каб партызаны чулі хто гэта едзе ды навет ня пробвалі падыйсьці блізка. Як цяпер бачу — уехалі ў мястэчка Пліса. Пераяжджаем цераз мост, а тут адзін лейтэнант ба-бах гранату ў рэчку ды аж заходзіцца ад сьмеху, усё паўтараючы: «От здорово!» . . .

Не вялікую аднак пацеху мела «руская армия» зь мяне. Калі на другі дзень выклікалі мяне ў нейкую канцылярыю, ды папыталіся, чаму я не хачу змагацца супраць партызанаў, я ведаў што сталася. Паведомлены аб «мабілізацыі» мой сябра яшчэ зь гімназыяльных часоў, які цяпер працаваў перакладчыкам у «Гэбітскамісарыяце» ў Глыбокім — не падвёў мяне. Якім-бы ня быў Радыёнаў, але загаду «Гэбітскамісара» аб звальненьні некалькіх маладых настаўнікаў, у тым ліку й мяне, ён ня сьмеў (у той яшчэ час) не паслухаць. Зьвяртаючы назад дакуманты «радыёнаўцы» пажадалі мне шмат чаго на дарогу ў сваёй роднай мове . . .

Трэба сказаць, што «змабілізаваным» Беларусам наагул ня доўга давялося быць у гэтай бандзе . . . Амаль усім удалося потым вярнуцца дадому. А сталася гэта так. Пад восень 1943 г. Радыёнаў праводзіў «апэрацыі» дзесьці ў раёне Докшыц і Бягомля. Гэтыя «апэрацыі» закончыліся неспадзяваным для Немцаў, а даўно прадказваным мясцовым жыхарствам, вынікам: Радыёнаў із сваей «арміяй» перайшоў на бок партызанаў. Каб-жа давесьці сваю адданасьць савецкай радзіме й часова зраджанаму «важдзю» — напаў на нямецкі гарнізон на станцыі Крулеўшчына й зьнішчыў яго. Гэта яму лёгка ўдалося, бо калі прыбыў у Крулеўшчыну, Немцы яшчэ зусім ня ведалі аб паразуменьні з партызанамі.

Пасьля гэтага «радыёнаўцы», баючыся помсты Немцаў, глыбока зашыліся ў лясы й балоты ў вярхоўі Бярэзіны. З гэтае зьмены фронту нашыя людзі й скарысталі ды паўцякалі дадому. Немцы, зразумела, нічога да іх ня мелі, бо чуліся цяпер самі вінаватымі, што раней дазвалялі, а прынамсі ўдавалі, што ня бачылі ні радыёнаўскіх «мабілізацыяў», ні ягоных ганебных учынкаў.

☆

Некалькі год таму давялося мне ў Бэльгіі сустрэцца з адным НТС-аўцам ды падыскутаваць на некаторыя тэмы мінулага. Той, хвалячыся колішнімі дасягненьнямі салідарыстых, узыйшоў неяк на тэму «радыёнаўцаў» ды, бяз дай прычыны, пачаў апраўдваць Радыёнава за яго пераход да партызанаў тым, што быццам Радыёнаў нарэшце пабачыў, што Немцы «не желают добра России». Пры гэтым мой НТС-авец падчыркнуў што й ён быў калісьці ў фармацыі Радыёнава, ды што наагул Радыёнаў хоць і рабіў памылкі, але ўсё-ж — герой. Калі-ж я папытаўся, а як ацэньваць Радыёнава за яго дзейнасьць да пераходу ў партызаны, той, не задумоўваючыся, так і адпаліў, што яны баранілі мясцовае жыхарства ад Немцаў! . . Тут я быў змушаны прыпомніць майму субяседніку, як выглядала тая «абарона» ды назваць канкрэтныя факты. І што-ж, той адразу выбачыўся, што, фактычна, ён сам ня быў «радыёнаўцам», а толькі чуў расказы сяброў.

☆

Вось гэта было некалькі фактаў зь якімі мне самому давялося сутыкнуцца. А колькі-ж ім падобных было ў Беларусі, колькі-ж крыўды цярпеў народ ад такіх «абаронцаў», як расейскія каральныя фармацыі! А сяньня, мо якраз тыя-ж самыя, на чыім сумленьні ляжаць тыя крыўды, ствараюць міты й паданьні аб сваім гераічным мінулым.

**А. Галубіцкі**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Што чуваць пра грамадзкую працу жанчынаў?

Беларускае Жаноцкае Таварыства ў Задзіночаных Штатах, як сябра Жаноцкае Рады Задзіночаных Штатаў, было прынятае на тры гады за сябру Міжнароднае Жаноцкае Рады.

Усюды чуваць, што Саветы пасылаюць сваіх людзёў даведацца да Амэрыкі і Амэрыканцы давядаюцца да Саветаў. Жаноцкая Рада Задзіночаных Штатаў таксама склікала паседжаньне, каб разгледзіць замену 12-ёх жанчын адумыслоўкаў (фахоўкаў) паміж ЗША і СССР. З паміж дванаццацёх пры тым былых толькі тры былі супроць. Чэскаславацкая Жаноцкая Рада зганіла гэтую дзейнасьць і старшыня ейная выясьняла пратэст тым, што гэтая акцыя ламае надзею паняволеных народаў на маральную помач дэмакратычных гаспадарстваў супроць савецкай тыраніі і гэтым аслабляе іхную веру ў вызваленьне зь цяперашняе нявoлі.

На Кангрэсе Міжнароднай Жаноцкай Рады летась у Канадзе кажная сяброўская арганізацыя дала справаздачу із свае працы. Падаем гэтта некаторыя ведамкі. У Італіі Жаноцкая Рада пляную ў працягу 3 год 1) студыяваць жаноцкія работы з гледзішча праўнага, тэхнічнага й сацыяльнага і 2) займацца ўзгадаваньнем жанчын, каб былі сьвядомыя сваіх працаў і абавязкаў у гаспадарстве і ў сябе на месцу. У Галяндыі жанчына ёсьць міністрам соцыяльнае працы. Галяндзкія жанчыны дамагаюцца аднолькавай аплаты працы мужчынаў і жанчынаў. Яны выдалі кніжку інфармуючы дзяўчат пра розныя работы й як да іх прыгатавацца. Арганізуюць лекцыі (чытані) з розных галінаў, прыкл. пра здароўе моладзежы, жанчыны ў вармії й інш. У Новай Зэляндыі жанчыны супрацуюць з урадам пры разьвязаньню розных праблемаў, прыкл. удзяржаньне старых, ужыцьцё атамовай энэргіі й інш. У Нарвэгіі жанчыны ў кантакце зь мясцовымі ўладамі й дамагаюцца розных паляпшэньняў, прыкл. болей электрычнасьці на дом і інш. Іхнай праграмаю ёсьцека студыяваць алькагалізм, закласьці парадні радзімам, арганізаваць курсы эканомікі. Наступным разам падамо весткі зь іншых краёў.

Хочам яшчэ зьвярнуць увагу ньюёрскіх — і суседніх — Беларусак на адчыненую бібліятэку ў Беларускім Грамадзкім Цэнтру ў Нью Ёрку. Бібліятэка адчынена кажную сыботу ад 6—9 гадз. увечары. Апрача часапісаў, маем каля 500 кніжкаў з усіх галінаў культуры — рэлігія, эканоміка, падручнікі, мававеда, беларуская літаратура (проза, вершы, драмы), чужыя літаратуры, гісторыя й геаграфія Беларусі й іншых краёў, жыцьцяпісы, дзяціная літаратура. Маем у бібліятэцы таксама кружэлкі зь беларускай і клясычнай музыкаю ды кружэлкі вучыцца ангельскую мову. Жанчыны могуць прынесьці з сабой ручную работу і пры слуханьню музыкі праводзіць прыемна ў таварысьцьве сыботнія вечары.

**М. Ст.**

## БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ РАДЫЯ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ»

паведамляе аб зьмене часу й хваляў сваіх перадачаў, пачынаючы ад 18-га верасьня:

ад 1-ай да 3-яй гадзіны ночы **менскага** часу — на хвалі 31 м.
ад 12-ай да 14-ай гадзіны „ „ — на хвалях 31 і 19 м.
і ад 21-ай да 22-ой гадзіны „ „ — на хвалях 31 і 25 м.

Заўвагі й пажаданьні што да зьместу й якасьці беларускіх праграмаў просім слаць на адрас:

Ul. DUDZICKI, MUENCHEN 19, Lilienthalstr. 2.

## УВАГА!

СЯРГЕЯ МАЗУРО, сына Пятра й Вікторыі, зь мястэчка Ўсялюб, Навагрудзкага павету, — які праўдападобна знаходзіцца цяпер у Ангельшчыне, шукаюць сваякі з Амэрыкі.

Кажнага, хто чуў аб ім ці ведае ягонае месца жыхарства, просім паведаміць Рэдакцыю.

**ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісваць поўныя гадавікі «Бацькаўшчыны» (ня пераплеценыя) за наступныя гады:**

**1953, 1954, 1955, 1956, 1957.**

**Цана аднаго гадавіка разам зь перасылкай 5 амэрыканскіх даляраў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Дзеля таго, што ўспомненых камплетаў Рэдакцыя мае вельмі абмежаваную колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ


**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).


# Аб Майсееўскім трыумфе, нашым „Юрачку" ...

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

рам беларускіх нумароў сваёй праграмы. У тым выглядзе, у якім прадстаўлены на гастролях гэтыя танцы, у васноўным малюнку й пабудове яны ўзятыя Майсеевым з пастаноўкі іх беларускім балетмайстрам К. Алексютовічам у ансамблі беларускай песьні й танцу дзяржаўнай Філярмоніі (пастаўлены былі яшчэ да другой сусьветнай вайны). Тым ня менш розьніца ў інтэрпрэтацыі «Бульбы» й «Юрачкі» ў К. Алексютовіча й І. Майсеева відавочная. У Алексютовіча яскрава была бачна выканальніцкая традыцыйная нацыянальная спадшчыннасьць (ад тэатраў Буйніцкага, Галубка), запраўды народны дух і характар, каларытныя штрыхі й дэталі беларускага фальклёру. Танцоры Алексютовіча й ведалі й прачувалі нутраны зьмест танцаў тыповасьць натур, характараў і вобразаў. Калі з гэтых пазыцыяў падыйсьці да выкананьня беларускіх танцаў ансамблем Майсеева, дык мы, нажаль, убачым шмат чаго такога, што зьмяняе, парушае, дае іншае, няправільнае, штучнае ўяўленьне аб беларускіх танцах.

Мне асабіста больш падабалася «Бульба», дзе агулам сяк-так захаваная лінія танцу й тэмпэрамант, аднак і тут амаль-што зьнікла ўсё тое, што павязвала «Бульбу» з адлюстраваньнем працоўных працэсаў жанчын-сялянак, што й дало жыцьцё самому танцу. Што-ж тычыцца «Юрачкі», дык тут паказаны зусім іншы вобраз. Юрачка, праўда, хлопец пераборлівы, заляцаецца да розных дзяўчат, але ён разам з тым і шчыры, чэсны, вельмі маральны, нікога не абразіць; ён баіцца толькі зрабіць свой выбар, наважыцца на такую клапатлівую справу як жаніцьба. Вось чаму й народ ставіцца да яго з дабрадушным гумарам і жартам. Тут няма ані злосьці, ні абвінавачаньня, ні паважных дакораў і закідаў. Юрачка свой, мілы, добры хлопец, але толькі сьмешны гэтай пераборлівасьцяй з аднаго боку й ненаважанасьцяй з другога. Дзяўчаты сьмяючыся, але з добрым сэрцам і намерамі папярэджваюць яго:

«Ах ты Юрачка, што ня жэнішся,
Прыйдзе зімачка — куды дзенішся?

І тое, што гэтага, шчырага Юрачку некаторыя крытыкі прынялі за вясковага Дон-Жуана, на маю думку, віна перш за ўсё пастаноўшчыка Майсеева, які выставіў хвальшыва гэты папулярны ў беларускім фальклёры вобраз, потым — выканаўцы партыі Юрачкі, які, ня ведаючы характару героя, не зразумеў самой сутнасьці натуры Юрачкі, а ўрэшце — і тых крытыкаў, якія таксама бяруцца з аплёмбам пісаць аб тым, чаго дасканала ня ведаюць.

Цікава, што раней і сам Майсееў крыху йнакш падыходзіў да распрацовак народных танцаў. Гэтак, прыгадваю, што першым беларускім танцам у ягоным ансамблі была папулярная «Лявоніха», але Майсееў зьняў яе з рэпэртуару, калі ўбачыў як запраўды яна выконваецца ў народным асяродзьдзі. Калі «Лявоніха» ў пастаноўцы Алексютовіча заблішчэла на сцэне Вялікага Тэатру на дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве (у 1940 г.), дык сам Майсееў прыйшоў прывітаць Алексютовіча й выканаўцаў ды выказаць ім сваё захапленьне. Цяпер-жа, наадварот, сам Майсееў стварае «сынтэзуючы нацыянальны вобраз», хоць гэта вядзе не да захаваньня народных каштоўнасьцяў у іх своеасаблівасьці й чыстаце, але да стварaньня падробак, і то навет трыкавымі прыёмамі.

Не, мне асабіста ў выкананьні ансамблю Майсеева не падабаліся ні беларускія, ні ўкраінскія танцы, хаця я зусім не адмаўляю высокай прафэсіяналізацыі й выканальніцкай здольнасьці пастаноўшчыка й танцораў.

Адно вельмі добра й прыемна, што беларускае нацыянальнае мастацтва заваёўвае сусьветныя сцэны, робіцца ўсё больш знаным ды прываблівае да сябе шырокія колы замежных гледачоў. Тут і Майсеева й ягоны ансамбль можна ўспомніць добрым словам.

Аднак нашае лятуценьне — дачакацца таго часу, калі беларускае нацыянальнае мастацтва панясуць у сьвет з трыумфам свае беларускія выканаўцы, пакажуць яго такім, якім яно ў запраўднасьці, пакажуць глыбока, любоўна, пакажуць вольна й свабодна, бяз тэндэнцыяў, штучнасьці, без палітычна-прапагандовых мэтаў і трыкаў.

**Мікола Куліковіч**

## Ліст у Рэдакцыю

Паважаны сп. Рэдактар!

У 31 (417) н-ры «Бацькаўшчыны» ў артыкуле «Зь гісторыі Вышэйшых школаў у Беларусі» ёсьць малая памылка. Лічу сваім абавязкам гэта спраставаць, тымбольш, што гэты цыкль артыкулаў вельмі цікавы. За гэта сп. В. Пануцэвічу дзякаваць.

Сп. Пануцэвіч піша, што «у часе маскоўскай навалы тут быў замучаны ведамы прафэсар і місіянэр Андрэй Баболя (1657)». Аўтар мае на думцы горад Пінск, як гэта відаць з цэлага кантэксту. У запраўднасьці-ж Андрэй Баболя быў замучаны ня ў Пінску, а ў Янаве, які ляжыць каля 40 км. ад Пінску у бок Драгічына.

Ці Андрэй Баболя быў прафэсарам — гэтага ня ведаю. Энцыкляпэдыі пішуць аб ім вельмі мала. А шкада. Фактам ёсьць, што Баболя быў езуітам і наварочваў праваслаўных на каталіцтва. Ці за гэта можна яго назваць місіянэрам? Ён-жа свае работы не праводзіў сярод паган! Праваслаўе — гэта таксама хрысьціянства.

З пашанай да Вас, сп. Рэдактар

**М. Шэвдзюк**


БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**


**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**